Народная Воля
27 САКАВІКА 1999 г.

# "КУЛЯ"

## Міколы Трухана



*"Ці ж гэта галоўнае ў жыцці — як мага больш нахапаць, урваць? Жыццё ж такое кароткае... Яно, як куля, пралятае — свісь і няма..." — літаральна некалькі дзён таму казаў мне Мікола ТРУХАН, рэжысёр, мастацкі кіраўнік Мінскага тэатра драмы "Дзе-Я?".*

*Адны лічылі Трухана вар'ятам. Іншыя проста не разумелі законаў, па якіх ён жыве. А некаторыя былі ўпэўненыя, што Трухан — не "от мира сего". Таму што не мог сагнуцца перад кім трэба і "ўставіць язык у адно месца", каб тэатру ў матэрыяльным плане стала добра. Але ён быў такі, які быў. За гэта яго цанілі, паважалі, любілі...*

*"Жыццё ж такое кароткае... Яно, як куля, пралятае — свісь і няма...". Сапраўды... Кулі і стрэлы вельмі падобныя адны да адных. Стрэл і палёт кулі чалавечага жыцця адбываецца вельмі хутка. І бязлітасна. Але ж "куля" Трухана, я ўпэўнена, яшчэ працягвае свой палёт. І ніхто не ведае, калі пачне завісаць яе траекторыя...*

*Мы сустракаліся з ім тры разы. Аднойчы ён выступаў у маёй рубрыцы "За кубачкам кавы", потым, пасля аднаго са спектакляў, мы з ім доўга размаўлялі проста пра жыццё. У апошні раз я бачыла яго ў мінулы аўторак. Хацела зрабіць матэрыял да Міжнароднага дня тэатра. А ў панядзелак мне паведамілі, што ён памёр...*

*Матэрыялу да Міжнароднага дня тэатра не атрымалася. Засталася проста плёнка з ягонымі словамі...*

### Матуліны рукі

...Ведаеш, нядаўна паехаў да бацькоў у Плешчаніцы. Цэлы дзень дапамагаў ім па доме, распавядаў пра сваё тэатральнае жыццё-быццё, цікавіўся апошнімі мясцовымі навінамі. Пад вечар пастрыг бацьку, пратапілі лазню, а потым усе разам глядзелі тэлевізар. Я лёг да іх на канапку, палажыў галаву маці на калені, а яна павольна гладзіла мяне па галаве, неяк вельмі пяшчотна перабірала мае пасівеўшыя валасы... Я заплюшчыў вочы. Мне было так хораша!.. У гэты момант я, 52-гадовы мужык, зразумеў, бадай, самую вялікую рэч на зямлі. Якія ж мы ўсе, па сутнасці, дзеці... Адзінокія, гаротныя, як не хапае нам цяпла матуліных рук, бацькоўскай пяшчоты, абдымкаў, проста шчырых размоў...

### Шнурок д'ябла

...Не радуюцца беларусы. Таму што жывуць у час палітычных і эканамічных складанасцяў, страшэнных хвароб і выпрабаванняў. Самае жахлівае ў гэтай сітуацыі, што мы не робім аніякіх высноў са свайго поўнага заняпаду. Нехта з вялікіх казаў: "Калі змыла частку сушы, гэта змыла частку цябе — ты стаў меней". Я часам разважаю: што трэба рабіць, каб нас не змыла? Як мы, уся нацыя, увесь народ, павінны прытуліцца адзін да аднаго, каб выжыць?..

...Калі ўпершыню прыехаў у Мінск, мне падалося, што тут жывуць толькі спевакі, акцёры, паэты і тыя, хто скача на дзіцячых скакалках. Усе ўсміхаліся, весяліліся, а на вуліцах стаяў пах бэзу і шалёны гук рогату... А сёння? Чаму мы так ненавідзім адзін аднаго? Чаму замест рогату і бэзавага паху вакол лунае зло, такое паўсюднае, дробязнае, непрыгожае і, здаецца, невынішчальнае? Ад тралейбуса, дзе ты некаму на нагу стаў ці табе сталі, да асабістай кватэры? Людзі з іншых краін, якія мы называем цывілізаванымі, не разумеюць, чаму ў нас так адбываецца...

Некаторыя вераць у казку аб прыгожым замежным жыцці. Але ж усю Беларусь у Францыю ці Англію не пераселіш. Дый каму мы там са сваім смуткам у вачах патрэбны? Іншаземцы такія адкрытыя і задаволеныя, быццам бы ў іх ёсць усё, што патрэбна чалавеку для шчасця, і яшчэ трохі болей... А ў нас? Спяшаюцца людзі, спяшаюцца людзі... І ўсе без усмешак на тварах. Страшна... Мабыць, хоць на хвіліну трэба спыніцца. А пасля прыпынку крочыць па жыцці ўжо больш павольна. І больш глыбока дыхаць...

...Ёсць у жыцці кожнага чалавека перыяды, калі раптам нервовая сістэма перастае адчуваць. Калі губляюцца эмоцыі, апантоўвае нейкая разгубленасць... Калі абавязкова трэба паехаць падыхаць паветрам лесу ці водарам палёў. Ці раптам паляцець на сонейка. Альбо ўзяць рыдлёўку і капаць, капаць, капаць... Каб вырвацца са складаных унутраных пастак. Бывае, як быццам цябе нехта кліча. Ты ведаеш, што так рабіць нельга, але ён усё роўна заве, цягне кудысьці... І што рабіць? Паддацца спакусе? І як адчуць ці зразумець, дзе той шнурок, за які цябе цягне д'ябал? Думаецца, калі беларусы пачнуць здагадвацца аб месцы знаходжання гэтага шнурка, можа адбыцца цуд...

### Надзея на наступны пацалунак

— Аднойчы цябе абнялі і пацалавалі. Табе спадабалася. Ты думаеш, што так будзе кожны дзень. А можа — раз на тыдзень. Ці раз у чвэрць стагоддзя... Так і ў нас. Дзякуючы "Народнай волі" у тэатры "Дзе-Я?" у свой час стала цяплей і таму крыху радней. Мы пачалі марыць, што ўлады пацалуюць нас яшчэ раз — дадуць трохі большае памяшканне. Зразумела, калі б тэатр "Дзе-Я?" мясціўся ў цэнтры, не было б многіх праблем. Усе ведаюць, што ўся мінская тэатральнасць пабудавана на канкрэтным адрэзку ў цэнтры Мінска. Там усе і тусуюцца. Цэнтр горада таксама аддаюць пад усялякія антрэпрызы — так лягчэй зарабляць грошы. А вось ехаць да гледача на Паўднёвы Захад ці ў раён аўтазавода, дзе транспарт дрэнна ходзіць, ніхто не хоча...

Колькі разоў пераконваўся: у грамадстве, дзе існуе прынцып хутчэй нахапаць грошай, ніколі не будуць пабудаваныя сапраўдныя тэатральныя храмы. Але што ж будзе з усімі намі, калі не будзе храмаў мастацтва? Уладзімір Караткевіч, напэўна, не проста казаў, што чалавецтва няўхільна ідзе да свайго канца. Гэта сапраўды так. Шкада, што не ўсе гэта адчуваюць...

Хварэюць акцёры. У адной схапіла сэрца, другому днямі зрабілі аперацыю, а ў некага проста думкі дрэнныя, і чалавек не ведае, як жыць далей, не бачыць ніякага выйсця. Усё гэта адным словам называецца — жыццё. Але калі яно творчае, то, мабыць, больш складанае, чым у звычайнага чалавека...

У апошні час я напісаў шмат лістоў на міжнародныя тэатральныя фестывалі. Нас туды запрашаюць, але паехаць мы не можам. Няма каму аплаціць дарогу і іншыя расходы... Мы — жабракі. Бо да нас такія адносіны...

Не разумеюць чыноўнікі, што акцёры не машыны. Яны — жывыя інструменты. Іх у футляр не пакладзеш. Нам плацяць мала у.е. Але калі займаешся божай справай, гэтыя у.е. ужо не галоўнае. Як быццам бы хапае аднаго паветра...

### Дзе мы?

...У гэтым годзе ў мяне будзе свой невялікі акцёрскі завочны курс! Я марыў пра гэта. Цяпер упэўнены: "Дзе-Я?" не загіне. Толькі трэба на хвіліну спыніцца. І дакладна ўсвядоміць, што перадаць маладым людзям, каб яны зразумелі, як трэба ісці і што трэба несці далей.

...Нішто не ўздзейнічае на чалавека так моцна, як мастацтва. Ні з чым не ўваходзіць у яго свядомасць разуменне свету, як з творамі мастацтва. Думаю, што XXI стагоддзе будзе вельмі тэатральным, асабліва для нашай краіны. І апроч творчых адкрыццяў, з'явіцца мноства цікавых тэатраў. Тэатраў на панелі, на скрыжаваннях дарог. У XXI стагоддзі тэатру "Дзе-Я?" споўніцца 13 год...

***...Калі даведалася аб смерці Трухана, міжвольна вырвалася: "Без яго "Дзе-Я?" загіне..." А ў адказ пачула: маўляў, прыйдзе новы мастацкі кіраўнік, і ўсё будзе добра. Верагодна... Але гэта будзе ўжо не той тэатр, у ім будуць не тыя спектаклі і не тое, незабыўнае труханаўскае паветра. Дый, увогуле "...речь не о том, что есть другие. Беда, что ЭТИХ больше нет..."***

**Марына КОКТЫШ.**

## 27 сакавіка – 3 красавіка ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

### ТЭАТРЫ

**Нацыянальны тэатр оперы**

***27 сакавіка*** — А.Барадзін "Князь Ігар", опера ў дзвюх дзеях.

***28 сакавіка*** — Ц.Кюі "Кот у ботах", опера ў дзвюх дзеях.

***30 сакавіка*** — Дж.Вердзі "Аіда", опера ў чатырох дзеях.

***1 красавіка*** — П.Чайкоўскі "Яўген Анегін", опера ў трох дзеях.

**Мінскі тэатр драмы "Дзе-Я?"**

***27 сакавіка*** — Ф.Аляхновіч "Здань", драма.

***30 сакавіка*** — Ф.Аляхновіч "Круці...", кантамінацыя па творах.

***3 красавіка*** — "Душы: подыум д'арт", трагіфарс паводле паэмы М.Гогаля "Мёртвыя душы". Рэжысёр — *М.Трухан.*

**Тэатр-лабараторыя "Вольная сцэна"**

***27 сакавіка*** — А.Папова "Развітанне з радзімай", драма.

***30 сакавіка*** — М.Дзінаў "Апошняя пастараль", фантастычны трылер-кліп па матывах аповесці А.Адамовіча.

***Дарэчы, "Вольная сцэна" аб'яўляе конкурсны набор юнакоў і дзяўчат ва ўзросце ад 17 да 24 гадоў у дапаможны акцёрскі склад.***

***Адборачныя кансультацыі пройдуць у апошнюю нядзелю сакавіка з 11 гадзін. Конкурсны паказ адбудзецца 4 красавіка ў 12 гадзін. Для паказу неабходна падрыхтаваць на беларускай мове байку, верш і ўрывак з прозы. Мінская прапіска — абавязковая. Даведкі па тэлефонах: 234-60-08, 268-60-21.***

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**

***1 красавіка*** — М.Задорнаў "Таполевая завея", камедыя ў дзвюх частках.

***2 красавіка*** — Р.Харвуд "Касцюмер", драма ў дзвюх дзеях. **На Малой сцэне** — А.Петрашкевіч — "Дагарэла свечачка", маналог актрысы.

***3 красавіка*** — **ПРЭМ'ЕРА!** А.Фугард "Тут жывуць людзі", трагікамедыя ў дзвюх частках.

*Сустрэча з Маці Тэрэзай вызначыла ягоны лёс — лёс японскага тэатра "Мандзюсака". У 1995 годзе камерцыйныя мэты саступілі месца пэўным сацыяльным зацікаўленням. Цяпер пляцоўкі для выступленняў артысты "Мандзюсака" знаходзілі ў бальніцах, інтэрнатах, лякарнях, турмах. Знакамітыя, хрэстаматыйныя японскія традыцыі (у музыцы, танцы, пластыцы, багатым касцюмаванні відовішча) спалучыліся з сучаснымі і нават з еўрапейскімі. Белая кветка распусцілася на новым небе...*

*"Мандзюсака" ў перакладзе — белая кветка, якая распускаецца на нябёсах. Цудадзейная, дзівосная прыгажосць бароніць чалавека ад благіх учынкаў. Гэтую назву даў тэатру вядомы прадзюсер Масатосі Сакаі, які выправіў у жыццё шмат якіх знаных артыстаў.*

*Леташняя сустрэча з чарнобыльскімі аздараўленцамі ў Кураяма на Хакайда вызначыла цяперашнюю вандроўку тэатра — пад беларускія нябёсы. Дабрачыннае таварыства "Какехашы ту Чарнобыль" ("Мост у Чарнобыль") — тое самае, што запрашае малых беларусаў на аздараўленчы адпачынак — разам з тэатрам "Мандзюсака" ўзялі чынны ўдзел у арганізацыі новага таварыства. Мэтай таварыства зрабілася арганізацыя паездкі ў Беларусь, да дзяцей чарнобыльскай зоны. Да жыхароў Краснаполля, Чачэрскага раёна, Буда-Кашалёва, Гомеля, Брагіна, Мінска. За васемнаццаць дзён "Мандзюсака" пакажа пятнаццаць спектакляў.*

***3 і 4 красавіка*** спектаклі "Мандзюсака" разам з мінскай гарадской арганізацыяй "Зялёны свет" прадставіць Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

**Малы тэатр пад кіраўніцтвам Ігара Забары**

***28 сакавіка*** — *(у Цэнтральным доме афіцэраў)* — **"Камедыя".**

***30 сакавіка*** — *(у памяшканні Купалаўскага тэатра)* — самы модны спектакль сезона **"ART".**

**Тэатр сатыры і гумару "Хрыстафор"** *(у Палацы культуры прафсаюзаў)*

***27 сакавіка*** — "Говорит и показывает..."

***1 красавіка*** — "Избранное", лепшыя нумары, створаныя тэатрам за апошнія дзесяць год.

***3 красавіка*** — "Третьим будешь?", безалкагольныя пасядзелкі з гледачамі.

**Дзяржаўны маладзёжны тэатр**

***27 сакавіка*** — Ж.-Б.Мальер "Плутни Скапена", камедыя у дзвюх частках.

***28 сакавіка*** — Г.Х.Андэрсен "Гадкий утенок", сучасная казка.

***1, 2 красавіка*** — "Что такое любовь?", рэвю на тэму кахання і сексуальнасці.

**Дзяржаўны акадэмічны рускі драматычны тэатр імя М.Горкага**

***27 сакавіка*** — Д.Фо, Ф.Рамэ "Свободный брак" у дзвюх частках.

***28 сакавіка*** — Д.Мережковский "Христос и Антихрист", трагедыя ў дзвюх дзеях. Для дзяцей — "Иван да Марья", казка ў дзвюх частках.

**Малы тэатр пры Беларускім фондзе развіцця культуры**

***27 сакавіка*** — "Капустник" Малага тэатра з удзелам гасцей з іншых тэатраў.

***28 сакавіка*** — **ПРЭМ'ЕРА!** "Мучительный Федя", трагікамедыя па п'есе Э.Радзінскага.

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"** *(у дольнай зале Касцёла св.Сымона і св.Алены, пл.Незалежнасці, 15)*

***29 сакавіка*** — Л.Геніюш "Белы сон", выканаўца — *Галіна Дзягілева.* ***Пачатак у 15 гадзін.***

### КІНО

**Пасольства Францыі ў Беларусі сумесна з федэрацыяй "Кінаклуб" запрашаюць на рэтраспектыву фільмаў французскага рэжысёра Гадара "Другое адкрыццё кінематографа".**

*Праграма фільмаў будзе дэманстравацца ў тэатральнай зале Палаца прафсаюзаў. Пачатак у 19 гадзін.*

***29 сакавіка*** — **"Китаянка".**

*...Група юных экстрэмістаў чытае Дастаеўскага і Мао, слухае "рэвалюцыйны" рок і рыхтуе пакушэнне на савецкага пасла... "Бесы" ў Парыжы 60-х гадоў.*

***30 сакавіка*** — **"Имя: Кармен".**

*...Сучасная версія класічнага сюжэта Мерымэ-Бізэ. Абсурдысцкая драма кахання часоў арганізаванай злачыннасці, моды на постмадэрн і захопленасць Томам Уэйтсам.*

## Апошні спектакль

**Мікалай Трухан памёр у ноч з 20 на 21 сакавіка ў гатэльным нумары на тэатральным фестывалі "Маладзечанская сакавіца".**

**Раніцай 20-га ягоны тэатр "Дзе-я?" іграў "Мёртвыя душы" паводле Гогаля, — дзіўнае ды ўразлівае відовішча. Ці не ўпершыню на тэатральнай сцэне мёртвыя душы... увасобіліся. Кожнага персанажа прадстаўлялі два выканаўцы: персанаж і "яго палавіна" — душа. З гэтай палавінай персанажы змагаліся, барукаліся, спрачаліся. Хто як мог. Душы адказвалі словам і дзеяннем. Колькі маглі. А некаторым і не было чаго адказаць...**

**Выбітная тэатральная ідэя Трухана вымагала акадэмічных магчымасцяў. Налаўчонай высокапрафесійнай трупы. Пастановачных сродкаў. Работы з кампазітарам, сцэнографам, харэографам. Па самым дарагім рахунку. Маштаб таленту Трухана ніяк і ніколі не супадаў з рамкамі, у якія даводзілася штораз уціскаць гэты талент.**

**Ён ставіў забароненага колісь Аляхновіча, адкрываў п'есу за п'есай. Перапрацоўваў іх на свой капыл, шукаў "іншай сутнасці". Прызнаваўся ў інтэрв'ю, як хоча знайсці адметныя выяўленчыя сродкі, пэўную сцэнічную мову — такую, якая б сведчыла адразу: перад гледачом — беларускі тэатр.**

**Разам з Віталем Баркоўскім першым даўмеўся пастановак паводле Валянціна Распуціна і Людмілы Петрушэўскай. Пастаноўкі зрабіліся легендарнымі.**

**Расказвалі гісторыі і пра ягоныя вандроўкі на знакаміты эдынбургскі тэатральны фестываль "Фрындж" з пастаноўкі паводле нацыянальных драматургаў. Па дарозе ў Шатландыю ў аэрапорце яго перахоплівалі лонданскія беларусы і прасілі... спектакляў. "Дзе-Я?" на чале з Труханам не адмаўляла ні лонданцам, ні нясвіжцам, ні жыхарам родных Труханавых Плешчаніц...**

**Нагадаўшы пра тое, што з жывою душою здараецца, Мікалай Трухан пайшоў ад нас назаўжды.**

**Жанна ЛАШКЕВІЧ.**

## Суббота, 27 марта

**БТ**

**07.00** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Континент. Обзор международных событий.
**08.15** Столица. Информационно-аналитическая программа.
**08.40** Потребительская корзина. Социально-экономическая программа.
**09.00** Новости.
**09.10** Мультфильм.
**09.20** Окружающий мир. Социально-экологическая программа.
**09.50** Тележурнал "Здоровье".
**10.15** Интермедия "Театр на все времена".
**10.20** "Сегодня с вами..." Заведующая кафедрой мастерства актера и режиссуры Белорусской академии искусств режиссер Лидия Монакова.
**10.45** Международные спортивные новости.
**11.05** Телевикторина "Вершина мира".
**11.30** Компьютерный полигон.
**11.55** Развлекательная программа "Все нормально, мама!"
**12.30** Интермедия "Театр на все времена".
**12.35** Научно-популярная программа "Четвертое измерение".
**13.05** Сериал по выходным. "Династия-2. Семья Колби" (США).
**13.50** Интермедия "Театр на все времена".
**13.55** Книгосбор.
**14.25** Олимп.
**15.00** Новости.
**15.15** Уроки Н.Новожиловой.
**15.40** Познай себя. "Почему люди лгут?"
**16.00** Парламентский вестник.
**16.30** Интермедия "Театр на все времена".
**16.35** "По заповедным местам Беларуси".
**17.00** Ток-шоу "Это моя работа". Сотрудник Белорусского детского хосписа.
**17.30** Телефестиваль белорусской песни "Песню берите с собой".
**18.25** Футбол. Чемпионат Европы. Беларусь — Швейцария. В перерыве (19.15) — "Из достоверных источников".
**20.25** Белорусский хит-парад. Итоги недели.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.40** Спортлото.
**21.50** Х.Кайтел в детективе "Молодые американцы" (США).
**23.30** Интермедия "Театр на все времена".
**23.35** Бездельник.
**00.05** Видимо-невидимо.

**ОРТ**

**07.00** Боевик "Забудьте слово "смерть".
**08.20** Национальная кинематографическая премия "Ника".
**08.25** Слово пастыря.
**08.45** Домашняя библиотека.
**09.00, 14.00, 17.30** Новости.
**09.15** Программа "100%".
**09.45** "Утренняя почта".
**10.20** "Каламбур".
**10.50** "Смак".
**11.10** Возвращение Третьяковки.
**11.35** Чемпионат мира по фигурному катанию.
**12.05** Х/ф "Счастливая Женька!".
**13.25** "Цивилизация".
**14.15** В мире животных.
**14.55** Умницы и умники.
**15.20** КВН-ассорти.
**15.50** Х/ф "Легенда о динозавре".
**17.50** Футбол. Отборочный матч Чемпионата Европы. Сборная Армении — Сборная России.
**19.50** Национальная кинематографическая премия "Ника".
**20.00** Время.
**20.50** Юбилейный концерт В.Леонтьева.
**22.55** Новости спорта.
**23.10** Триллер "Таксист".

**РТР**

**07.00** Мультфильм "Мы с Шерлоком Холмсом".
**07.10** Х/ф "Включите северное сияние".
**08.30** Мультфильмы "Рикки-Тикки-Тави", "Теремок".
**09.00** Доброе утро, страна!
**09.35** "Сто к одному".
**10.20** Любовь с первого взгляда.
**10.45** Подиум д'арт.
**11.15** Золотой ключ.
**11.30** Домашние хлопоты.
**12.00** Сериал "Неделя в Санта-Барбаре".
**13.00, 19.00** Вести.
**13.30** Неделя власти.
**14.00** Х/ф "Враг народа Бухарин".
**15.40** Д/ф "Я решил изменить мир".
**16.00** Х/ф "Младенцы".
**16.15** "Театр + TV".
**17.00** "Моя семья".
**18.00** "Площадь звезд-99".
**19.35** "Год "На-Ны". Фильм-концерт.
**21.10** Драма "Пророчество".
**22.50** Фигурное катание. Чемпионат мира. Женщины. Произвольная программа.
**00.10** Звуковая дорожка.

**КУЛЬТУРА**

**09.10** "Читая Библию".
**09.20** Книжный кладезь.
**09.35** Х/ф "Сердца четырех".
**11.05** Село Дорожево — 60 лет спустя.
**11.35** Ток-шоу "Наобум".
**12.05** "Навстречу".
**12.20** "Великие дворцы мира".
**12.45, 13.45** Спектакль "Московское гнездо".
**13.30, 21.00** Новости культуры.
**15.05** "Месье Иван в Провансе".
**15.35** "Международное обозрение".
**16.15** "Очевидное — невероятное".
**16.40** Вариации на тему рококо.
**17.00** "Рассказы старого сплетника".
**17.30** Новости.
**17.35** Д/ф "Болдинское притяжение".
**18.20** "XX век в кадре и за кадром".
**19.10** Чудо-сказка.
**19.25** Мультфильм.
**19.35** Дом актера.
**20.30** 15-й подъезд.
**21.20** Х/ф "Никогда".
**22.45** Блеф-клуб.

**НТВ**

**07.00** Мультсериал "Битлджус".
**07.25** Детектив "Круг".
**09.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00** Сегодня.
**09.15** Криминал.
**09.40** Впрок.
**09.55** "Пойми меня".
**10.25** "Старый телевизор".
**11.15** Профессия — репортер.
**11.30** Своя игра.
**12.00** Мультфильмы "Винни-Пух", "Винни-Пух идет в гости", "Винни-Пух и день забот"; приключенческий фильм "Всадник без головы".
**14.30** "Русский век".
**15.15** Сериал "Она написала убийство".
**16.10** Суд идет.
**17.00** Дог-шоу "Я и моя собака".
**17.30** Герой дня без галстука.
**18.40** Комедия "Операция "Ы" и другие приключения Шурика".
**20.30** "Итого".
**21.45** Х/ф "Эксперимент "Филадельфия"-II".
**23.30** "Про это". Ток-шоу.

**TV-6**

**07.05, 17.30, 22.05** Дорожный патруль.
**07.20** Мультсериал "Сказки братьев Гримм".
**07.45** Сериал "Неоновый всадник".
**08.40** Сериал "Таинственный остров".
**09.05** "Star Старт".
**09.50** Путешествия с "Национальным географическим обществом". "Долина десятитысячных дымов".
**10.40, 21.35** ДИСК-канал.
**11.10** Телемагазин "Спасибо за покупку!".
**11.25** Ток-шоу "Мое кино" с Виктором Мережко.
**13.05** "Нью-Йорк, Нью-Йорк".
**13.35** "О.С.П.-студия".
**14.25** "Это — Жириновский!"
**14.55** Сериал "Возвращение на остров сокровищ".
**16.00** Ток-шоу "Я сама". "За двумя зайцами".
**16.55** Док.сериал "Красная полоса". "Ленька Пантелеев".
**17.45** Сериал "Найтмен".
**18.35** СВ-шоу.
**19.05** Х/ф "Ночь над городом".
**21.05** "Те Кто недели".
**22.20** Шесть новостей дня.
**22.35** "Звездная ночь".
**23.25** Плейбой.

**8-й канал**

**15.00** Джойс Майер "Жизнь в слове".
**15.30** Х/ф "Принц из Ютландии".
**17.30** Кого Вы ищите? По следам Иисуса.
**18.00** Мультпланета.
**18.30** Коллекция 8 телеканала...
**19.00** Свое дело.
**19.30** Мистический триллер "Полуночное кабаре". Исполняя экзотический танец в ночном кабаре, женщина встречается с настоящим демоном тьмы. Сюда же ведет и цепочка жутких убийств на улицах ночного города.
**21.15** Вечарніца.
**21.30** Афиша.
**21.45** Трюкачи Голливуда.
**22.00** Мелисса Гилберг в х/ф "Зоя", 1 с. Действие начинается в Санкт-Петербурге, где в начале революции погибает почти вся семья племянницы царя княгини Зои. Чудом оставшиеся в живых бабушка и семнадцатилетняя Зоя бегут в Париж...

## Воскресенье, 28 марта

**БТ**

**07.00** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Документальный сериал "Города мира" (США).
**08.30** Мультфильм.
**08.40** Потребительская корзина. Социально-экономическая программа.
**09.00** Новости.
**09.10** "Все дело в шляпе". Развлекательно-познавательная игра-викторина.
**09.35** Мультфильм "Сказка за сказкой". "Два клена".
**10.10** Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых.
**10.35** Развлекательная программа "Все нормально, мама!"
**11.10** Международные спортивные новости.
**11.30** Арсенал. Программа об армии.
**11.55** Сделано в Беларуси. Минский завод колесных тягачей.
**12.10** Телевизионный Дом кино. Послесловие к телесериалу "Проклятый уютный дом".
**12.40** "У будущего века на пороге..." К 85-летию со дня рождения народного поэта Беларуси Аркадия Кулешова.
**13.10** Сериал по выходным. "Династия-2. Семья Колби" (США).
**13.55** Сельчане. Встречи с хлеборобами республики.
**14.20** Премьера БТ. Людмила Рублевская. Телеспектакль "Последняя из рода Алельковичей".
**14.40** "Кольцо надежды". Телеочерк о сборной Беларуси по танцам на инвалидных колясках.
**15.00** Новости.
**15.10** Семейный телеканал "На волне взаимопонимания".
**15.50** Станция "Академия наук".
**16.05** "АРТ-клуб". Международный день театра.
**16.35** Зорная ростань. Телеконкурс молодых артистов эстрады.
**17.20** Семейный кинозал. Ж.Маре и Л.де Фюнес в комедии "Фантомас против Скотланд-Ярда" (Франция).
**18.55** Теленавигатор.
**19.15** Стадион.
**19.40** Колыбельная.
**20.00** Резонанс.
**20.50** Ток-шоу "Карамболь" с участием Лены Зосимовой.
**21.25** "Синема". С.Шепард и Ж.Дельпи в х/ф режиссера Ф.Шлендорфа "Странник" (Германия — Франция).
**23.20** Премьера песни.
**23.30** Автопарк.
**23.40** Валентин Елизарьев в программе "Новая коллекция".

**ОРТ**

**07.00** Х/ф "Волшебный портрет".
**08.30** "Русалочка".
**09.00, 14.00** Новости.
**09.15** "Непутевые заметки".
**09.30** Пока все дома.
**10.05** Утренняя звезда.
**10.50** "Ералаш".
**11.05** Служу России!
**11.35** Играй, гармонь любимая!
**12.00** Крестьянские ведомости.
**12.30** Сериал "Все путешествия команды Кусто".
**13.25** "Смехопанорама".
**14.15** Клуб путешественников.
**15.05** "Тимон и Пумба", "Аладдин".
**16.00** Чемпионат мира по фигурному катанию.
**17.35** "Ералаш".
**17.55** КВН-99.
**20.00** Время.
**20.35** Комедия "Привычка жениться".
**22.40** Новости культуры.
**22.55** Футбольное обозрение.
**23.25** Х/ф "Пьеса для пассажира".

**РТР**

**07.00** Мультфильмы "Кважды ква", "Шапокляк".
**07.30** Служу Отечеству!
**08.00** Сельские вести.
**08.30** Почта РТР.
**09.00** Доброе утро, страна!
**09.30** Сам себе режиссер.
**10.00** "Аншлаг".
**11.00** Русское лото.
**11.40** Мир книг.
**12.00** Сериал "Неделя в Санта-Барбаре".
**13.00** Вести.
**13.30** Федерация.
**14.10** Парламентский час.
**15.10** Сериал "Закон и порядок".
**16.00** Диалоги о животных.
**17.00** Старая квартира.
**18.00** Совершенно секретно.
**19.00** "Зеркало".
**20.00** Драма "Кикс".
**21.50** "Колизей".
**22.45** Дежурная часть.
**23.10** Х/ф "Если бы знать...".

**КУЛЬТУРА**

**09.10** "Читая Библию".
**09.20** Консилиум.
**09.45** Мультфильмы.
**10.45** В тридевятом царстве.
**11.10** Детский хор "Весна".
**11.45** Этюды о русском языке.
**12.05** Д/ф "Война по правилам".
**12.20** "Великие дворцы мира".
**12.45** Академический час.
**13.30, 21.00** Новости культуры.
**13.45** Чемпионат мира по фигурному катанию.
**15.00** "Месье Иван в Провансе".
**15.30** Д/ф "А прошлое кажется сном".
**16.40** "Я всегда пою с удовольствием".
**17.00** Про фото.
**17.30** Новости.
**17.35** "Спортивные встречи".
**18.00** Д/ф "Таинство брака".
**19.10** Чудо-сказка.
**19.25** Кумиры.
**19.55** "Рекламные щиты". Рок-балет.
**21.20** "Вокзал мечты".
**21.45** Х/ф "Аллегро Барбаро".
**23.00** Хамелеон.

**НТВ**

**07.00** Сказка "Конек-Горбунок".
**08.10** Мультфильм "Малыш и Карлсон".
**08.30** "Старый телевизор".
**09.00, 11.00, 15.00** "Сегодня".
**09.15** Комедия "Операция "Ы" и другие приключения Шурика".
**11.15** Большие деньги.
**11.40** "Жизнь замечательных зверей".
**12.10** Мультфильмы "Вовка в тридевятом царстве", "Бобик в гостях у Барбоса"; х/ф "Республика Шкид".
**14.30** "Русский век".
**15.20** Док. сериал "Любовные истории, которые потрясли мир".
**15.50** Перехват.
**16.40** "Арина".
**17.30** Итоги.
**17.50** Боевик "Миротворец".
**19.45** Куклы.
**20.00** Итоги.
**21.00** Сериал "Ее звали Никита".
**22.00** Итоги.
**22.30** Х/ф "Ночное дежурство".

**TV-6**

**07.05, 17.25** Дорожный патруль.
**07.20** Мультсериал "Сказки братьев Гримм".
**07.45** Сериал "Неоновый всадник".
**08.40** Сериал "Таинственный остров".
**09.05** "Чердачок. Юмористическое шоу".
**09.25** ДИСК-канал.
**10.00** Вкусная передача "Пальчики оближешь".
**10.25** Канон.
**11.00** Шесть новостей недели.
**11.30** "Star Старт".
**12.15** "Мир чудес Анжелики Эффи".
**12.30** Кинескоп.
**13.25** Телемагазин "Спасибо за покупку!".
**13.35** "Звезды о звездах". "На-На" 10 лет!
**14.10** Концерт группы "На-На".
**15.35** Шоу Артура Крупенина "Мужской клуб". "Жена мне угрожает".
**16.25** Катастрофы недели.
**17.45** Юмористическая программа "БИС".
**18.15** "Вы — очевидец".
**19.00** Аналитическая программа "Обозреватель".
**20.00** Детектив "Человек с лицом Богарта".
**22.00** Наша музыка. Маша Распутина.
**23.00** Ночной сеанс. "Импровизация".

**8-й канал**

**15.00** Программа Рика Реннера.
**15.30** Мульт-планета.
**16.00** Х/ф "Небо над Берлином" Режиссер Вам Вендерс, ФРГ — Франция, 1987г. История ангела, влюбившегося в земную женщину и променявшего свое небесное предназначение на жизнь простого человека. Приз Каннского фестиваля за лучшую режиссуру.
**18.15** Александр Мень. Слово о Библии.
**19.00** Свободный бой.
**19.30** Кинокомедия "Смертельный совет".
**21.15** Вечарніца.
**21.30** Новости "К-видео".
**22.00** Х/ф "Зоя", 2 с.

## Понедельник, 29 марта

**БТ**

**06.30** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.10** Доброе утро, Беларусь!
**08.15** Резонанс.
**09.00** Новости.
**09.10** Потребительская корзина. Социально-экономическая программа.
**09.40** "Сегодня с вами..." Заведующий кафедрой мастерства актера и режиссуры Белорусской академии искусств режиссер Лидия Манакова.
**10.05** Здоровье. Тележурнал.
**10.30** Усадьба. Программа для дачников.
**11.00** Новости.
**11.15** Телесериал "Ветер в спину" (Канада).
**12.05** Теленавигатор.
**12.25** Музыка без границ. Музыкально-информационная программа.
**13.00** Новости.
**13.10** "Синема". С.Шепард и Ж.Дельпи в фильме режиссера Ф.Шлендорфа "Странник" (Германия — Франция).
**15.00** Новости.
**15.15** Сериал для детей "Чародей" (Австралия — Польша).
**15.40** Видеокурс французского языка.
**16.05** Телеочерк "Ах, свадьба, свадьба!".
**16.35** Автопарк.
**16.45** Премьера песни.
**17.00** Новости (с сурдопереводом).
**17.15** "А музыка звучит..." Концерт вокальной группы "Камерата".
**17.45** "Время и люди". Телеочерк о директоре научно-производственного предприятия "Струм" Иване Мурзине (г.Молодечно).
**18.05** Телесериал "Ветер в спину" (Канада).
**19.00** Новости.
**19.15** Политические диалоги.
**19.40** Международные спортивные новости.
**20.00** Добрый вечер, Беларусь! В программе: "Разговор в прямом эфире", "Музыкальная тема", "Что делать?", юмористическая рубрика "Понедельник с "Христофором".
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.40** Событие.
**22.00** Фильмы нашей памяти. А.Збруев, О.Даль, А.Миронов в х/ф "Мой младший брат" ("Мосфильм").
**23.40** Криминальная хроника.
**23.45** Белорусский хит-парад.
**23.50** Третий тайм.
**00.20** Новости.
**00.30** КВН. Чемпионат Беларуси.

**ОРТ**

**16.00** Сериал "Жестокий ангел".
**17.00** Новости.
**17.15** Эти забавные животные.
**17.45** Здесь и сейчас.
**18.05** Программа "Человек в маске".
**18.45** Сериал "Улицы разбитых фонарей-III".
**19.45** "Спокойной ночи, малыши!"
**20.00** Время.
**20.50** Сериал "Горец-IV".
**21.45** Взгляд.
**22.30** Однако.
**22.45** Х/ф "Метель".

**РТР**

**15.15** Мультфильмы "Боцман и попугай", "Стихи с бегемотами".
**15.30** Сериал "Первые поцелуи".
**16.00, 19.00, 23.25** Вести.
**16.30** "Башня".
**16.55** Гомеопатия и здоровье.
**17.00** Х/ф "Адъютант его превосходительства". 1-я с.
**18.20** Сериал "Мистер Бин — черная змеюка".
**19.40** Подробности.
**19.55** Любовь с первого взгляда.
**20.30** Комедия "Моя морячка".
**22.00** Акуна матата.
**23.10** Дежурная часть.
**23.55** Магазин на диване.

**КУЛЬТУРА**

**07.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00** Новости культуры.
**07.25** Мультфильмы.
**08.25** Тебе поем, "Весна".
**09.00** Х/ф "Кукла". 6-я с.
**10.20** Возвращение С.Соколова.
**10.45** "Академический час".
**11.40** После новостей...
**12.00** IX фестиваль "Кырачаан".
**12.15** Живое дерево ремесел.
**12.20, 13.45** Спектакль "Умирает душа".
**14.45** "Без визы".
**15.00, 17.30** Новости.
**15.05** "Лукоморье".
**15.25** Сериал "Четыре танкиста и собака".
**16.15** "15-й подъезд".
**16.40** Два Владимира в поисках света.
**17.00** Мир авиации.
**17.40** Ваше сословие.
**18.05** Музыкальный экспромт.
**18.20** Какой молодец этот Зощенко!
**19.00** "Университетский проспект".
**19.10** Чудо-сказка.
**19.50** Д/ф "И представление продолжается".
**20.45** После новостей...
**21.05** Х/ф "Кукла". 6-я с.
**22.25** Вечные образы искусства.
**22.50** "Видеопоэзия".

**НТВ**

**06.00** Сегодня утром.
**08.10** Сериал "Ее звали Никита".
**09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00** Сегодня.
**09.15** Вчера в "Итогах".
**10.15** Куклы.
**10.30** Итоги.
**11.30** "Старый телевизор".
**13.30** Сериал "Детектив Нэш Бриджес".
**14.20** "Сегоднячко".
**15.30** Сериал "Конан".
**16.30** Впрок.
**16.55** Сериал "Любовь и тайны Сансет Бич".
**17.40** Криминал.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Боевик "Фанат".
**20.35** "Итого".
**21.45** Сериал "Детектив Нэш Бриджес".
**22.40** Сегоднячко.
**23.20** Сегодня в полночь.

**TV-6**

**05.55, 12.10** День за днем.
**07.40, 17.25, 22.05** Дорожный патруль.
**08.00, 10.00, 12.00, 14.00, 17.00** ТСН-6.
**08.10, 22.30** Те Кто.
**08.25** "Звезды о звездах". "На-На" — 10 лет!
**08.50, 11.25, 13.50, 14.20** Телемагазин для минчан.
**09.00** Аналитическая программа "Обозреватель".
**10.10** "Скандалы недели".
**10.40** "ОБОЗ".
**14.10, 23.45** "Знак качества".
**14.40** Сериал "Дикая Роза".
**15.35** Сериал "Дом собаки".
**16.00, 22.45** ДИСК-канал.
**16.35** "Избирком".
**17.40** Сериал "Третья планета от Солнца".
**18.05** Сериал "Войны наркомафии".
**19.00** "Новости дня".
**19.30** Шоу Артура Крупенина "Мужской клуб". "Я высох от любви..."
**20.30** "В мире людей".
**21.00** Сериал "33 квадратных метра. Дачные истории".
**22.20** Шесть новостей дня.
**23.20** Сериал "Дневники Красной туфельки".

**8-й канал**

**18.00** Программа Кеннета Коупленда.
**18.30** Х/ф "Поцелуй убийцы".
**20.00** Экономикст.
**20.30** Вечарніца.
**20.45** Музыка на телеканале...
**21.30** Свое дело.
**22.00** Х/ф "Право на беззащитность".

